# Тыднёвік Магілёўскі




№ 20 (135) 16 — 22 лістапада 2001 г. Кошт 80 руб.


## Куды прывядзе дарога, раскатаная па могілках і крыжах...





Фота IREX

***Большасьць менчукоў, апытаных на вуліцах сталіцы і блізу Курапатаў, рэзка адмоўна ставіцца да сілавой акцыі ўладаў супраць абаронцаў сьвятога месца. Некаторыя выказваюць думку, што Бог пакарае тых, хто руйнуе крыжы й накіроўвае тэхніку на магілы.***

**Юры Вогнеў:** *"Па-першае, гэта парушэньне правоў чалавека, і наогул я лічу, што зьнішчаюцца рэшткі дэмакратыі ў Беларусі. Наконт таго, каб удзельнічаць самому ў абароне – я яшчэ ня ведаю, бо я не магу кінуць працу, але маральна я разам з гэтымі людзьмі й нават гатовы аказаць ім матэрыяльную дапамогу, калі будзе патрэба. Я гатовы аддаць частку свайго заробка, каб падтрымаць людзей".*

**Сьвятлана й Соня:** *"Мы ўжо паўгода пратэстуем супраць пабудовы тут дарогі. З гэтага нічога не атрымалася. Подпісы назьбіралі й аддалі. Лукашэнка пераступіў цераз нас. Хаця быў час, калі сюды наведаўся Біл Клінтан, тады ўсё дасканала прыбралі, каб мажліва было паказаць яму, якія ў нас ёсьць месцы. Як можна ісьці праз жывых людзей?.. Гэта жудасна – гэтыя мянтоўскія кардоны. Мы тут жывем ужо больш як 20 гадоў. У нас ніхто не пытаўся, вось гэтую дарогу рабіць тут ці не".*

**Валянціна Трэмбіцкая:** *"Дарогу можна было рабіць на паўкілямэтра ад Курапатаў. Ня трэба было гэтага скандалу. Ня трэба было бойні. Ня трэба было зьбіваць гэтых дзяцей. Ня трэба, каб яны два месяцы сядзелі ля вогнішча, гібелі тут у холадзе, у голадзе. Але яны змагаліся за магілы нашых продкаў. А мэта дзяржавы, можа мэта аднаго ў ёй чалавека, – зьнішчыць памяць аб Курапатах, аб загінуўшых нашых дзядах і бацьках".*

**Лізавета Жукоўская:** *Я жыву тут з 1981 году. Я бачыла тут чэрапы. 8-10-гадовыя хлопчыкі капаліся ў зямлі, бегалі з чарапамі, у якіх была дзірка ў патыліцы. Трэба шанаваць памяць гэтых рэпрэсаваных людзей. Я цалкам на баку БНФ. Я праваслаўная, хрысьціянка. Гэта вялікі грэх. Прырода іх пакарае. Іх пакарае Бог".*

***А вось што казалі палітыкі й грамадзкія дзеячы адразу пасьля таго, як сталася вядома пра міліцэйскі напад на абаронцаў Курапатаў.***

**Вінцук Вячорка:** *"Можна было разьлічваць, спадзявацца, што пасьля выбараў (калі, здавалася б, Лукашэнка ўмацаваў свае пазыцыі) рэжым праявіць дастатковы розум і запросіць усё ж людзей на размову. На размову пра лёс сьвятыні, прад'явіўшы пэўныя аргумэнты і выслухаўшы контрааргумэнты. Усе мы, каму дарагі лёс Курапатаў, рыхтаваліся да такой размовы. Але мы бачым, што рэжым ёсьць рэжым, і ён напляваў на любыя ўмоўнасьці".*

**Віктар Івашкевіч:** *"Трэба працягваць змагацца, каб тут усё ж была памяць пра бальшавіцкія рэпрэсіі – з той нагоды, што ў нас яны пачынаюць паўтарацца".*

**Аляксей Марачкін:** *"Сатана тут правіць баль. Зараз яны тут пад аховай АМОНу, бульдозэры тут разьязджаюць, нішчаць крыжы – гэта вельмі балюча. Балюча за тое, як руйнуюць нашу памяць. Калі-небудзь гэтыя грахі адгукнуцца і на тых людзях, што тут на бульдозэрах, і на тых, што нас акружылі, каб мы не прайшлі і не заміналі бульдозэрам".*

**Павал Севярынец:** *"Гэта сатанізм проста. І людзі, якія забіралі абаронцаў Курапатаў, яны за гэта адкажуць – не перад намі, а перад Богам".*

**Аляксей Кароль:** *"Пад салодкія размовы пра дыялёг і пра магчымасьці зьмяніць сытуацыю проста б'юць маладых. Гэта жахліва. Пад тымі ж самымі Курапатамі – сымбаля лепшага (ці горшага) не прыдумаеш".*

**Мая Кляшторная:** *"Прымаў рашэньне адзін чалавек – гэта Лукашэнка. Таксама як і дэпутатаў выкідалі з будынку Вярхоўнага Савету напачатку ягонай дзейнасьці, а зараз можна й усё астатняе выкінуць зь дзяржавы".*

**Сяргей Папкоў:** *"Баліць сэрца, не магу нічога нават і сказаць. Гледзячы на гэты гвалт, на гэта ўсё – пад пакровам ночы заўжды зладзейства рабілася. Як і ў 1937-1941 гадах забівалі тут, так і цяпер топчуць душы забітых людзей. Зараз зноў будзем арганізоўваць людзей, на месцы зламаных крыжоў будзем зноў ставіць крыжы, будзем усё рабіць, каб спыніць гэта".*

**Учора 10 тысячаў гарадзенскіх падпішчыкаў "Пагоні" не атрымалі сваёй любімай газэты.**

**(Працяг тэмы на 3-й стар.)**




## Жэст ці справа?

***Лідэр Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, як пра тое было ў нашых папярэдніх публікацыях, выступіў ініцыятарам перамоваў з Лукашэнкам па шырокаму колу палітычна-сацыяльных праблемаў грамадзтва.***

Пры гэтым А.Лябедзька адмыслова падкрэсьліў, што прапанова не азначае прызнаньня законнасьці лукашэнкавай выбарчай перамогі. Улада адрэагавала накіраваньнем на першы "круглы стол" з ініцыятарамі перамоваў памочніка Лукашэнкі Сяргея Посахава, які папярэдзіў, што ня стане слухаць ніякіх папярэдніх умоваў, а перамовы магчымыя толькі на грунце прызнаньня апазыцыяй "новых рэальнасьцяў, якія склаліся ў краіне пасьля выбараў". Улада стаіць моцна, дадаў ён, і ня мае патрэбы ў падпорках. Пакуль з гэтага "перамоўнага фронту" нічога новага не чуваць.

Затое ў гэтай тэме нечакана праявіла сябе наша абласная выканаўчая ўлада. Старшыня абласной арганізацыі АГП Уладзімер Шанцаў некаторы час таму, у разьвіцьцё ініцыятывы кіраўніцтва сваёй партыі, накіраваў афіцыйны ліст старшыні аблвыканкаму Барысу Батуру. У ім вядомы на Магілёўшчыне актывіст апазыцыйнага руху вылучыў прапанову перамоваў улады зь мясцовымі палітычнымі дэмакратычнымі структурамі. Прыкладам, толькі абласная арганізацыя АГП налічвае больш за 300 сяброў, якія рэальна праяўляюць сябе ў жыцьці рэгіёну. Кола прапанаваных У.Шанцавым пытаньняў для абмеркаваньня закранае найперш праблемы сацыяльнага жыцьця і ўкараненьня ў практыку ўлады дэмакратычных правілаў і нормаў.

Адказу пісьмовага, як гэта лёгка было прадбачыць, спадар Уладзімер не атрымаў (пісьмовы адказ – гэта дакумэнт!). Ініцыятар быў запрошаны ўпраўленьнем інфармацыі аблвыканкама, дзе зь ім па даручэньні Батуры правёў гутарку начальнік кабінэту Гарбачоў. Па першым уражаньні, якім У.Шанцаў падзяліўся з "ТМ", пададзеная ім рука супрацоўніцтва ўладай не адрынутая.

Аднак пакуль далей размовы, хаця й значна больш ветлівай, чым у сталіцы, перамоўная справа не пайшла.

***Уласная інфармацыя***



Фота IREX

**...Сыты галоднага не разумее**



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

У Крычаве адноўленая крымінальная справа супраць незалежнай газэты "Вольны горад". Здавалася б, ужо разабраліся з гэтай "справай", бо нядаўна праваахоўныя органы яе закрылі. Хаця хацелася верыць у тое, што дачакаемся часу, калі яе можна будзе "падняць", каб пакараць сапраўдных вінаватых у тым канфлікце. Нагадаем, што газэту фактычна перасьледавалі за ейную актыўную пазыцыю падчас прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі. Аднаўленьне крымінальнага перасьледу крычаўскіх журналістаў прыйшлося якраз на той час, калі ў Менску гаспадарчы суд зачыніў гарадзенскую "Пагоню". Можна меркаваць, што тыя, хто разважаў пра "лібэралізацыю" кіруючага рэжыму ў сфэры ягонага стаўленьня да СМІ, цяпер урэшце ўсьвядомяць марнасьць сваіх спадзяваньняў. Сапраўды, ніякіх зьменаў у дзяржаўнай палітыцы пасьля выбараў не адбылося. Калі, зразумела, ня ўлічваць узмацненьне націску карнага апарату на рэшткі грамадзянскай супольнасьці.

Цяпер у шапіках магілёўцы могуць набыць новую газэтку для беларускіх дзетак – "Несьцерку". Большасьць матэрыялаў у ёй напісаныя альбо падабраныя дзецьмі. Юныя аўтары распавядаюць, як яны бавяць час, аб чым думаюць, што чытаюць, што іх хвалюе. Газэтка выдаецца ў Горках. Раней яна распаўсюджвалася, як кажуць, "з рук у рукі". Каб гэтае ўнікальнае для цяперашняй беларускай рэчаіснасьці выданьне пабачыла сьвет, працавала шмат людзей: сябраў грамадзкіх аб'яднаньняў і проста руплівцаў беларускай мовы. Горацкая газэтка для дзетак дэманструе, што насуперак шматлікім перашкодам беларускамоўная прэса можа быць канкурэнтназдольнай ды папулярнай. Пытайцеся "Несьцерку" у шапіках "Белсаюздруку"!

Канфлікты паміж уладамі і прадпрымальнікамі рэчавых і прадуктовых рынкаў Магілёва за апошнія гады сталіся звычайнай справай. Улада цяпер прапанавала стварыць савет, які аб'яднае прадстаўнікоў шэрагу дзяржаўных структураў і прадпрымальніцкай супольнасьці. Будзе такі савет наладжваць сталы дыялёг паміж бакамі. Ідэя неблагая. Асабліва ва ўмовах, калі ўладай жа і аб'яўленая "вайна" гандлярам. Шматлікае войска дзяржаўных катралёраў і падатказьбіральнікаў пэрманэнтна наступае... У нармальных умовах ніякіх саветаў не патрабуецца: усё рэгулюе закон, пабудаваны так, каб разьвіваўся і функцыянаваў галоўны судзьдзя – рынак.

Па словах галоўнага доктара псыхіятрычнага шпіталю Аляксандра Кавалёва, на ўліку ў іх стаіць каля 18000 чалавек ды амаль 7000 зарэгістраваныя ў якасьці атрымальнікаў кансультацыйнай дапамогі. Некалькі сотняў хворых знаходзяцца ў шпіталі стацыянарна. Галоўная праблема шпіталю, якому больш за 200 гадоў – нястача памяшканьняў. З 1992-га году вядзецца будаўніцтва новых карпусоў. За гэты час будаўнічыя працы двойчы спыняліся. Мэдыкі, як могуць, змагаюцца з гэтым сваім жабрацтвам: нешта падфарбоўваюць, нешта латаюць. Але тое, зразумела, не вырашае праблему. Увогуле, шпіталь у жабрацкім стане ня можа быць гуманным для пацыентаў.

Як паведаміў навуковы супрацоўнік Інстытуту гісторыі АН Беларусі Уладзімер Ксянзоў, цікавымі знаходкамі скончыліся археалягічныя працы ў Дрыбінскім і Чавускім раёнах. Непадалёк ад вёскі Каменка была знойдзеная колішняя стаянка першабытных людзей: разнастайныя прылады для працы і паляваньня (наканцоўе стралы, скрэбкі, фрагмэнты тапара, ядрышчы і г.д.). Паводле папярэдніх высноваў, стаянка гэтая мела месца ў 9-10-ым тысячагодзьдзі да нараджэньня Ісуса Хрыста. Тыя людзі належалі да днепра-дзясьнінскай культуры.

4-гадовы жыхар Чэрыкава Андрэй Садовіч застаўся жыць і мае цяпер падмацаванае бэльгійскімі мэдыкамі здароўе. Хлопчык меў цяжкую хваробу сэрца. Ратаваць яго маглі толькі за мяжой: традыцыйная гісторыя для нашай краіны. Добра, што галоўны доктар раённай больніцы зьвярнулася па дапамогу да бэльгійскага дабрачынцы, які прывозіць у раён гуманітарную дапамогу. Чалавек гэты адгукнуўся на чужое гора, знайшоў сродкі й мэдыкаў. Хлопчык ужо вярнуўся дадому. Вось што можа зрабіць іншым разам гуманітарная дапамога – у шырокім сэньсе гэтага паняцьця...

*Да сустрэчы праз тыдзень.*
*Сымон Глазштэйн.*

# Сэнатара Дж. Гелмза у Беларусі не забудуць

***Сэнат ЗША разглядае праект Закону "Аб спрыяньні дэмакратыі, прынцыпам прававаой дзяржавы ў Беларусі і абароне беларускага сувэрэнітэту і незалежнасьці". Праект прапанаваў да разгляду сэнатар Джэсы Гелмз.***

***Спачатку ў праекце пералічаныя асноўныя падзеі беларускага палітычнага жыцьця апошняга часу: гвалт рэжыму Лукашэнкі над апазыцыяй, цкаваньне ім незалежных СМІ, напады на цэрквы ды рэлігійныя меншасьці, зьнікненьні вядомых дзеячоў, адсутнасьць дэмакратычнага заканадаўства, грубыя парушэньні падчас выбараў...***

Далей гаворка вядзецца пра дапамогу народу Беларусі, а сродкі, якія плянуецца выдаткаваць, павінны быць накіраваныя, між іншым, на разьвіцьцё незалежных СМІ, у тым ліку – на пашырэньне аб'ёму непадцэнзурнага радыёвяшчаньня як унутры Беларусі, так і на Беларусь.

Наступныя назвы разьдзелаў праекту сьведчаць за сябе самі: "Блякаваньне беларускіх актываў у ЗША", "Забарона ўезду ў ЗША беларускім афіцыйным асобам", "Забарона стратэгічнага экспарту ў Беларусь", "Забарона на пазыкі й інвэстыцыі", "Шматбаковыя санкцыі"...

Ніжэй мы падаем поўны тэкст Разьдзелу 5, які мае назоў "Санкцыі супраць рэжыму Лукашэнкі".

**(a) Ужываньне захадаў.** – Санкцыі, апісаныя ў гэтым разьдзеле і ў разьдзелах 6, 8 і 9, будуць ужывацца ў дачыненьні да Беларусі, пакуль Прэзыдэнт ня вырашыць і не засьведчыць перад адпаведнымі камітэтамі Кангрэсу, што ўлады Беларусі зрабілі значны прагрэс ў выкананьні ўмоваў, апісаных у падразьдзеле (b).

**(b) Умовы.** – Згаданыя ў падразьдзеле (a) умовы гэткія:

(1) вызваленьне ўсіх асобаў, якія былі зьняволеныя за іх палітычныя погляды;

(2) адкліканьне ўсіх палітычна матываваных судовых абвінавачаньняў супраць усіх дзеячоў апазыцыі;

(3) прадстаўленьне поўнай справаздачы аб тых лідэрах апазыцыі і журналістах, улучна зь Віктарам Ганчаром, Анатолем Красоўскім, Юрыем Захаранкам і Зьміцерам Завадзкім, якія зьніклі пры таямнічых абставінах; пакараньне ўсіх адказных за гэтыя зьнікненьні;

(4) спыненьне ўсіх формаў перасьледу і рэпрэсіяў супраць незалежных сродкаў масавай інфармацыі, няўрадавых арганізацыяў і палітычнай апазыцыі;

(5) правядзеньне свабодных і справядлівых прэзыдэнцкіх і парлямэнцкіх выбараў;

**(c) Міжнародныя фінансовыя ўстановы.** – Міністэрства Фінансаў Злучаных Штатаў дасьць рэкамэндацыі сваім выканаўчым дырэктарам у міжнародных фінансовых установах выступаць і галасаваць супраць любога выдзяленьня гэтымі ўстановамі любой фінансовай дапамогі любога віду (улучна з тэхнічнай дапамогай і грантамі) Ураду Беларусі, за выключэньнем пазыкаў і дапамогі, неабходных для забесьпячэньня асноўных гуманітарных патрэбаў.

**(d) Вызначэньне міжнародных фінансовых установаў.** – У гэтым разьдзеле пад тэрмінам "міжнародныя фінансовыя ўстановы" разумеюцца Міжнародны валютны Фонд, Міжнародны банк рэканструкцыі і разьвіцьця, Міжнародная асацыяцыя разьвіцьця, Міжнародная фінансовая карпарацыя, Шматбаковае агенцтва гарантыі інвэстыцыяў і Эўрапейскі банк рэканструкцыі і разьвіцьця.

***...Сярод мноства наступстваў, якія можа спарадзіць прыняцьце гэтага праекту – магчымыя паводзіны ў адказ з боку Расеі і Нямеччыны, дзе даволі лагодна ставяцца да беларускіх "рэаліяў", а таксама – шэрагу эўрапейскіх структураў, што ня супраць "перамоваў і дамоўленасьцяў" з афіцыйным Менскам. У той жа час Крэмль, напрыклад, усё далей ідзе па шляху расейска-амэрыканскага збліжэньня, а Нямеччына – надзейны сябра ЗША ажно з 45-га года мінулага стагодзьдзя. Ясна, што яшчэ болей абвастрацца ўнутрыпалітычныя адносіны ў нашай краіне, якія й сёньня дастаткова напружаныя... Адным словам, ЗША – гэта сур'ёзна.***



# Абмен думкамі

**Лідэр КХП – БНФ Зянон Пазьняк наведаў у мінулую нядзелю Вашынгтан, дзе сустрэўся з супрацоўніцай аддзелу Дзяржаўнага дэпартамэнту ЗША, якая адказвае за беларускія справы.**

Вось як пракамэнтаваў сустрэчу сам спадар Зянон:

– Памянялася адміністрацыя беларускага сэктару, і неабходна было правесьці абмен думкамі ды пазнаёміцца. З гэтага абмену думкамі мяне зацікавіла і зьвярнула маю ўвагу тое, што іх надзвычай уразіла разбурэньне Курапатаў – гэта абсалютная нечаканасьць, ім гэта цяжка растлумачыць, бо пра Курапаты ведаюць ва ўсім сьвеце і ведаюць, што гэта такое. І другое, што іх вельмі ўразіла, гэта тое, што Лукашэнка ў канцы кастрычніка прызнаўся па тэлебачаньні, што ён мае адносіны да забойства аднаго крымінальнага аўтарытэта. Гэтага ў Амэрыцы проста ня могуць зразумець, для іх гэта выходзіць за межы нармальнага. Калі б нейкі палітык у Амэрыцы нешта падобнае сказаў, то на яго адразу б наклалі кайданкі, завялі б справу і пачаўся б працэс...

Выконваючая цяпер абавязкі адказнага за беларускія справы спн.Шэрыл Джэксан працавала раней у Македоніі, Славаччыне і троху знаёмая з праблемамі Ўсходняй Эўропы. Спадзяюся, што супрацоўніцтва зь ёй будзе карыснае, тым больш што яно прадугледжвае ня толькі кантакты зь беларускай дэмакратыяй і вызвольным рухам, але і зь беларускай дыяспарай.

*Паводле радыё "Свабода"*

# Валютны фонд нам не дарадчык

***Экспэрты Міжнароднага валютнага фонду прыйшлі да высновы, што ў наступныя паўгода Беларусь ня можа прэтэндаваць на атрыманьне пазыкі "стэнд-бай".***

Асноўная прэтэнзія, якую выказала ўраду РБ спн.Марта дэ Кастэла Бранка, кіраўнічка місіі МВФ, што працавала ў Беларусі – высокі дэфіцыт бюджэту. Яшчэ адно расчараваньне місіі – да сёньняшняга дня не скасаваны лукашэнкаў дэкрэт №40, паводле якога дзяржава мае права канфіскаваць уласную маёмасьць прыватных прадпрымальнікаў.

М.дэ Кастэла Бранка паведаміла, што "...шэраг макраэканамічных паказчыкаў краінай ня выкананы, нашмат падвысіліся запазычанасьці мясцовых бюджэтаў. А дырэктыўнае падвышэньне заробкаў робіць немагчымым утаймаваньне фінансовага дэфіцыту і рост інфляцыі".

Місія МВФ па гэтых ды шэрагу іншых праблемных пытаньняў ня здолела знайсьці паразуменьня зь беларускім урадам, а таму пакінула яму свае прапановы без абмеркаваньня. Сярод іх – неабходнасьць ухіленьня недахопаў у эканамічных напрамках, якія для МВФ прынцыповыя. Але ўрад адмаўляецца гэта рабіць, бо "мае ўласную праграму".

*Тацяна КАЛІНОЎСКАЯ*



Фота IREX



# Можна зачыніць газэту, журналістаў – не

***Увесь апошні месяц "ТМ" спачувальна і з хваляваньнем сачыў за разьвіцьцём падзеяў вакол недзяржаўнай гарадзенскай газэты "Пагоня".***

Нагадаем, што гэтае, адное зь першых беларускіх недзяржаўных выданьняў, на працягу ўсіх 10-ці гадоў свайго існаваньня дэманстравала высокі ўзор прафэсіянальнай і сумленнай журналістыкі. Таму газэта была адной з самых папулярных у сваім рэгіёне, але адначасна пра яе ведалі й па-за межамі вобласьці. Таму ж усе гэтыя гады выданьне безсаромна перасьледвалася як мясцовай уладай, так і Дзяржкамдрукам (цяпер ужо былым, бо на ягоным месцы ў новым урадзе паўстала Міністэрства па друку). Апошнім часам, у сувязі зь нядаўнімі выбарамі, да ціску на вольнае гарадзенскае слова далучыліся "свае" КГБ і абллракуратура.

Пережыць выбары газэце ўдалося, але "справа "Пагоні", як сталася відавочным цяпер, толькі адкладалася на больш зручны для ўладаў час, у прыватнасьці, з нагоды магчымай эўрапейскай рэакцыі. Адміністрацыі краіны, відаць, падалося, што цяпер на тле размоваў пра "прызнаньне беларускіх рэальнасьцяў" і "неабходнасьць зьняцьця вакол Беларусі міжнароднай ізаляцыі", якія настойліва чуваць з шэрагу эўрапейскіх краінаў і эўрапейскіх жа структураў, можна нарэшце разабрацца з выданьнем, што мазоліць вочы сваім "нацыяналізмам".

Зьдзейсьніць гэта выпала Вышэйшаму Гаспадарчаму Суду. Яму хапіла двух непрацяглых паседжаньняў, каб (у панядзелак, 12 лістапада) вынесьці прысуд: **ліквідаваць юрыдычную асобу – рэдакцыю газэты "Пагоня" і зачыніць выданьне.** Рашэньне ўступіла ў сілу адразу, да таго ж абскарджаньню яно не падлягае.




Мікола Маркевіч, які быў рэдактарам "Пагоні" усе 10 год ейнага існаваньня, а таксама дэпутатам ад апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусі 12-га скліканьня, у залі суда заявіў журналістам і прысутным, што, пачуўшы прысуд, спачатку не паверыў сваім вушам. Ён расцаніў расправу над газэтай як пагрозу іншым беларускім выданьням, што вызнаюць прынятыя ў цывілізаваным сьвеце каштоўнасьці і сумленна выконваюць свае прафэсійныя задачы.

На думку М.Маркевіча, улада засьведчыла марнасьць наіўных спадзеваў на лібэралізацыю жыцьця ў краіне, бо яна немагчымая ва ўмовах адсутнасьці найпершай умовы дэмакратыі і грамадзкага даверу – Свабоды Слова.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях палітыкі***

# Закон і прэса: супрацьстаяньне

***Напрыканцы мінулага тыдня ў Менску ў Беларускай асацыяцыі журналістаў пад старшынствам яе прэзыдэнта Жаны Літвіной прайшла нарада рэгіянальных старшыняў БАЖ і рэдактараў шэрагу недзяржаўных газэтаў.***

Пасьля дакладу старшыні Цэнтру абароны СМІ, які дзейць пры гэтай грамадзкай арганізацыі, прафэсара і доктара юрыдычных навук Міхаіла Пастухова нарада абмеркавала распрацаваны Міністэрствам па друку праект зьмяненьняў і дапаўненьняў у існуючы Закон аб друку. У выніку абмеркаваньня на адрас Міністэрства і дэпутацкай "палаты", якая будзе разглядаць гэтую "заканадаўчую ініцыятыву" на сваёй веснавой сэсіі, журналісты накіравалі прынцыповыя заўвагі, што занялі амаль 5 старонак дробна набранага тэксту. Яны ўвабралі ў сябе абгрунтаваную крытыку найбольш небясьпечных, на думку прафэсіяналаў, паправак і зьмяненьняў. За нібыта "дэмакратычным тэкстам" міністэрскага дакумэнту ня цяжка ўбачыць намер пагоршыць становішча – а хутчэй за ўсё – зрабіць немагчымым самое існаваньне недзяржаўнай прэсы. Па новым законе прынцыпова (у горшы бок) зьмяняюцца правілы заснаваньня выданьняў, іх фінансаваньня, адказнасьці рэдакцыяў газэтаў... Зачыніць любую зь іх зможа ледзь не любы чыноўнік (сёньня для гэтага ўсё ж патрэбен суд). Многія палажэньні пра тое, чаго газэтам "нельга публікаваць", сфармуляваныя ў паправках да Закону настолькі недакладна, што іх можна бясконца аспрэчваць і разумець абсалютна па-рознаму (у цывілізаваных заканадаўчых актах, як вядома, такое недапушчальна). Новымі дапаўненьнямі аўтары "заканадаўчай ініцыятывы" многія пытаньні рэгуляваньня дзейнасьці СМІ перадаюць з узроўню Міністэрства (дзе ўсё ж трапляюцца прафэсіяналы) на ўзровень рэгіянальнага выканкамаўскага чыноўніка, якому – што шмат разоў пацьверджана жыцьцёвай практыкай – усё роўна, чым "кіраваць"...

Нарада даручыла праўленьню БАЖ у аспрэчваньні дакумэнту Міністэрства зьвярнуцца па падтрымку да міжнародных журналісцкіх і юрыдычных арганізацыяў.

***Г.СУДНІК, нам. старшыні Магілёўскай гарадзкой суполкі БАЖ***

**P.S.** Сёньня і заўтра ў Магілёве пройдзе сэмінар журналістаў на тэму "Роля прэсы ў сучасным грамадзтве". Безумоўна, што гаворка на сустрэчы прафэсіяналаў закране тэму як беларускага, так і замежнага журналісцкага заканадаўства. Тым больш, што адным з дакладчыкаў на сэмінары будзе Міхаіл Пастухоў. А па-за тэарэтычнай гаворкай журналісты абласных недзяржаўных выданьняў разыграюць некаторыя рэальныя сытуацыі, якія ўжо мелі месца, альбо могуць сустрэцца на практыцы. Інтэрактыўны мэтад працы сэмінара закліканы навучыць калегаў рашуча і зь веданьнем законаў дзейнічаць на карысьць чытачоў у самых складаных сытуацыях.



Фота IREX

## КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

# Будаўніцтва працягваецца, але і варта не сыйшла

Уздоўж дарогі ў Курапатах на адлегласьці 22 мэтры ад восі дарогі стаіць ужо каля 40 крыжоў. Гэта мяжа, за якой ня могуць весьціся будаўнічыя працы.

Будаўнікі працуюць ужо без аховы міліцыянтаў, але міліцыя знаходзіцца непадалёк і пільна сочыць за ўсім, што адбываецца. Будаўнічыя брыгады з Магілёву карчавалі дрэвы, каб праклясьці дарогу да пагорку. Сочаць за сытуацыяй таксама некалькі грамадзкіх наглядальнікаў – прадстаўнікі Беларускай арганізацыі працоўных жанчын, Таварыства Беларускай мовы, "Дыярыюша", а таксама назіральнікі ад партыі БНФ. Прыходзяць ва ўрочышча й археолягі з Інстытуту гісторыі Акадэміі Навук, якія запэўніваюць, што будаўнічыя працы адразу ж будуць прыпыненыя, калі будуць знойдзеныя пахаваньні.

Днямі ў Курапаты прыязджала прадстаўніца арганізацыі "Мэмарыял" з Санкт-Пецярбургу Аляксандра Рэзьнікава. У мінулую пятніцу яна ўбачыла па тэлевізары, як міліцыя разганяла людзей, што ахоўвалі Курапаты. Жанчына адразу набыла квіток на цягнік і прыехала ў Менск. Два дні і дзьве ночы Аляксандра правяла ў лягеры валанцёраў. Яна распавяла, што каля Санкт-Пецярбургу ёсьць падобнае месца энкавэдэшных катаваньняў – Левашова. Там пабудаваны мэмарыял, куды прыходзяць людзі і да якога ўлады ставяцца зь вялікай павагай.

Яшчэ А.Рэзьнікава адзначыла такую беларускую акалічнасьць. Яна меркавала, што бараніць Курапаты прыходзяць людзі сталага веку, тыя, у каго былі рэпрэсаваныя сваякі, а ўбачыла, што гэта найперш моладзь. На яе думку, гэта вельмі сымбалічна й дае беларусам надзею на вольнае жыцьцё ў будучыні.

***

Тым часам менскія раённыя суды ўвесь тыдзень працягвалі асуджаць абаронцаў Курапатаў, якія патрапілі пад міліцэйскае затрыманьне. Павал Севярынец першым сярод іх атрымаў ад улады традыцыйныя 10 сутак зьняволеньня за кратамі.

***Ганна СОУСЬ***

# Нешта ня клеіцца ў гучным судзе

Былы спэцназавец Валеры Ігнатовіч, якога сьледчыя называюць лідэрам злачыннай групоўкі, што быццам скрала апэратара ОРТ Зьміцера Завадзкага, больш не прысутнічае ў судовай залі.

Судзьдзя выдаліў Ігнатовіча паводле хадайніцтва пракурора. Маўляў, падсудны непаважліва стаўіўся да ўдзельнікаў працэсу. Між тым, іншыя крыніцы паведамляюць, што Ігнатовіч не прызнае сябе вінаватым і на гэтай падставе ня ўдзельнічае ў працэсе: маўчыць, не задае пытаньняў і не адказвае на іх. Пакідаючы залю суда, ён скамандаваў "рабі, як я!" сваім падзельнікам, якія цяпер таксама маўчаць.

На мінулым тыдні на суд не зьявілася таксама некалькі сьведкаў. Усё гэта разам вымусіла абвесьціць перапынак на няпэўны тэрмін.

***Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ***




Фота IREX

# Пакуль тая перапіска...

***Рабочыя асобных брыгадаў магілёўскага будаўнічага трэсту №12 адмовіліся выйсьці на працу. Адны пратэстуюць супраць затрымкі выплаты заробку за верасень, а другія адмаўляюцца ехаць на працу ў Расею.***

Рабочыя будаўнічага ўпраўленьня №56 узгадваюць, што апошні раз заробак своечасова ім выплацілі за жнівень, якраз напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў. Мінула два месяцы, на двары лістапад, а яны дагэтуль не атрымалі заробку за верасень. Такі падыход адміністрацыі падштурхнў рабочых да своеасаблівага страйку. Іхняе галоўнае патрабаваньне – выкананьне калектыўнай дамовы, дзе дакладна ўказаныя тэрміны выплаты заробку.



Адмовіліся выехаць на працу ў Маскву будаўнікі ўпраўленьня №57. Як вядома, аблвыканкам падпісаў з прэфэктурай усходняй акругі расейскай сталіцы адпаведнае пагадненьне. Аднак камандзіраваныя будаўнікі запатрабавалі спачатку разьлічыцца з тымі, хто працаваў у Маскве да іх. Нагадаем, што група магілёўскіх рабочых, якім у Расеі значна не даплацілі грошай, нават накіравала скаргу Паўлу Барадзіну. Цікава, што днямі зь ягонай канцылярыі рабочыя атрымалі копію патрабавальнага запытаньня Барадзіна на адрас нашага Савету Міністраў аб тым, чаму рабочым не заплацілі абяцанага і куды ўвогуле падзеліся тыя грошы. Аднак, пакуль тая бадзяга зь перапіскай, рабочыя зьвярнуліся па дапамогу ў раённы Цэнтральны суд.

"ТМ" абавязкова паведаміць пра ягоныя вынікі.

***Алесь СЕРДЗЮКОЎ***

# Абарані Сябе Сам

Магілёўскае рэгіянальнае аддзяленьне Беларускага Хельсінскага Камітэта і Магілёўскі Праваабарончы цэнтар паведамляюць, што з гэтага тыдня абедзьве арганізацыі займелі новы адрас сваіх офісаў: ***Магілёў, завулак Крупскай,5*** (у будынку колішняга чыгуначнага Дома быту). На жаль, пакуль у офісах не падключаныя тэлефоны. Аднак прыёму наведвальнікаў гэта ніколькі не замінае.

Прэзэнтацыю праваабарончага офісу, нягледзячы на адмысловае запрашэньне, не ўдастоілі сваёй увагай прадстаўнікі мясцовай улады, юстыцыі і журналісты шэрагу газэтаў. А прайшла яна, дарэчы, добра, цікава і нават весела. Было гэта ў мінулую нядзелю. А з панядзелка прадоўжыліся будні, якія ў праваабаронцаў шчыльна занятыя справамі, клопатамі, трывогамі – якім "Тыднёвік" шчыра жадае рэальнай выніковасьці на карысьць нашых з вамі, шаноўныя чытачы, правоў і свабодаў.



Днямі ў Магілёў з вандроўкі па Крыму вярнулася экспэдыцыя магілёўцаў, аб'яднаных суполкай "Чароўны ўспамін". Перад тым, як мы паведамлялі, "успамінаўцы" прайшлі сьцежкамі Максіма Багдановіча па Беларусі, пабывалі ў Вільні. Уся гэтая праграма была прысьвечаная 110-ай гадавіне з дня нараджэньня гэтага выбітнага клясыка беларускай літаратуры і дзейнага патрыёта Бацькаўшчыны.

зам з крымскімі беларусамі ўсталявалі Дошку ў гонар Адама Міцкевіча. А ў Феадосіі і Алуште вандроўнікі сваімі сіламі правялі віктарыну-канцэрт.

Удзельнікі аўтобуснай экспэдыцыі ў Крым (дарэчы, машына была ў іхным распараджэньні цягам усёй паездкі) удзячныя ўсім, хто зрабіў магчымай гэтую вандроўку. У ліку іх – грамадзкае аб'яднаньне "Кола сяброў", абласныя аддзелы Таварыства беларус-

# Сьцежкі Багдановіча прывялі ў Крым

За 9 дзён вандроўкі магілёўцы пабывалі ў крымскіх мясьцінах, зьвязаных з тамтэйшым жыцьцём М.Багдановіча – у Ялце і Старым Крыме, Феадосіі. Наведалі, зразумела, і знакаміты Севастопаль. Яны прывезьлі ў крымскі край жменю магілёўскай зямлі, якую высыпалі на магілу паэта, каля якой правялі мітынг-рэквіем ягонай памяці. Яшчэ адное знакавае мерапрыемства прайшло ў Севастопалі ў той дзень, калі на Бацькаўшчыне адзначаліся Дзяды. Магілёўцы прынялі ўдзел у шэсьці севастопальскіх беларусаў па гародзе зь бел-чырвона-белымі і жоўта-блакітнымі сьцягамі. Дарэчы, гараджане паставіліся да шэсьця зь цікавасьцю і вельмі прыхільна. У Балаклаве "успамінаўцы" ра-

кай мовы і Геаграфічнага таварыства. Творчыя вынікі крымскай паездкі ўжо зацікавілі Асамблею няўрадавых арганізацыяў, якая паабяцала дапамагчы ў падрыхтоўцы перасоўных фота-выставаў "Сьцежкамі Багдановіча ў 110-ты год нараджэньня Паэта". Мяркуецца, што выстава будзе экспанавацца ў навучальных установах, грамадзкіх арганізацыях, моладзевых асяродках вобласьці і краіны з мэтай прапагандаваньня біяграфіі і творчай спадчыны Максіма Багдановіча, які назаўсёды застанецца гонарам нашай Бацькаўшчыны.

***Аляксандар АГЕЕЎ,***
***выкладчык МДПУ,***
***удзельнік вандроўкі***




## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Бабруйску



***Падчас сходу мясцовай філіі Беларускай арганізацыі журналістаў прысутныя ня здолелі абраць новага кіраўніка.***

Былы старшыня суполкі Вячаслаў Сьвізуноў цяпер ня мае часу на грамадзкую працу, бо вельмі заняты рэдагаваньнем газэты "Крынічка Бабруйская". Ягоную просьбу аб дастаўцы сябры арганізацыі падтрымалі, аднак усе новыя кандыдатуры на пасаду старшыні выклікалі шмат спрэчак і не набралі таму дастатковай колькасьці галасоў. Было вырашана, што часова вырашаць бягучыя арганізацыйныя пытаньні будзе Ігар Хадзько, рэдактар газэты "Рабочы Бабруйска".

***Цягам апошніх 10-ці гадоў у раёне ліквідаваныя чатыры вёскі.***

Гэты паказчык, аднак, на рэспубліканскім тле выглядае яшчэ няблага – па ўсей краіне за гэты ж пэрыяд ліквідавана больш за тысячу вёсак. Прычынаў тут дзьве: чарнобыльскія наступствы і натуральнае выміраньне люду.

***Таццяна КОПЕЦ,***
***Вячаслаў КАПУСЬЦІН***

### ...з Шклову

***Былы кінатэатар "Мір", які не працаваў на працягу 10-ці гадоў, тэрмінова перароблены ў моладзевы цэнтар.***

Дырэктарам цэнтру стала Марына Кашко, першы сакратар мясцовага БПСМ. Мэта гэтай трансфармацыі – перацягнуць моладзь раёну на бок рэжыму. Бо падчас выбараў улада зразумела, што згубіла сымпатыі моладзі. Плянуецца таксама правесьці "слёт пионеров" (сёньня іх на Шклоўшчыне 377 чалавек).

***Мясцовае Таварыства беларускай мовы працягвае шэраг сьвяточных акцыяў, прысьвечаных 100-годзьдзю Міхася Зарэцкага.***

Чакаецца, што 20-га лістапада ў горад прыедзе старшыня ТБМ Алег Трусаў, які папярэдне настойліва прасіў арганізаваць ягонае спатканьне з старшынём райвыканкаму А.Агеевым. Пакуль невядома, ці адбудзецца такая сустрэча.

***Аляксандар ШЧАРБАК***

# Застаўся адзін неасуджаны

Старшыня магілёўскай гарадзкой арганізацыі Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Уладзімер Гайдукоў атрымаў судовае папярэджаньне за ўдзел у "Ланцугу неабыякавых людзей" 30-га верасьня.

У.Гайдукоў быў затрыманы тады разам зь Сержуком Гіркіным (суд над якім адбыўся раней – гл. "ТМ" №16) і лідэрам АГП Анатолем Лябедзькам. Дарэчы, апошні ў магілёўскі суд пакуль не зьявіўся, нягледзячы на

**ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА**



выклік. Паводле сп.Гайдукова, ён сам даведаўся пра суд непасрэдна ад міліцыянта, які прыехаў за ім, каб на паседжаньне суду й адвезьці. Судзьдзя не прыняў на ўвагу аргумэнты абвінавачанага наконт таго, што дзеля ўшанаваньня памяці зьніклых людзей ня трэба дазволу ўлады. У выніку вельмі хуткага разгляду справы У.Гайдукоў атрымаў папярэджаньне як удзельнік несанкцыянаванага пікету.

***Алесь СЕРДЗЮКОЎ***

## Мала хто верыць

**Вядучыя польскія газэты камэнтуюць вынікі канфэрэнцыі прэзыдэнтаў краінаў Цэнтральнай ды Усходняй Эўропы, што прайшла ў Варшаве (куды ня быў запрошаны Лукашэнка).**

Вось некаторыя цытаты з уплывовых польскіх мэдыяў, якія тычацца прамовы прадстаўніка РБ Урала Латыпава. "Асаблівую зацікаўленасьць, калі не сказаць зьдзіўленьне, выклікаў удзел у працы канфэрэнцыі прадстаўніка Беларусі, які запэўніў, што намер ягонай краіны змагацца з тэрарызмам сапраўды шчыры", – напісала ўплывовая газэта Rzeczpospolita.

Gazeta Wyborcza ў матэрыяле, прысьвечаным канфэрэнцыі, нагадала чытачам, што напярэдадні польскі бок тлумачыў сваймy грамадзтву нечаканае запрашэньне Беларусі як пэўны крэдыт гэтай краіне.

А ў газэце Zycie знаны польскі палітоляг Гжэгож Кастжэва-Зорбас напісаў, што асуджэньне тэрарызму Беларусьсю – гэта адзіная неспадзяванка варшаўскай канфэрэнцыі. "Аднак гэтая дэклярацыя ня можа лічыцца прадстаўнічым голасам беларускіх уладаў", – дадаў ён.

***Аляксей ДЗІКАВІЦКІ***






**Рэдактар Генадзь СУДНІК**

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*

*Штотыднёвік*





АДРАС РЭДАКЦЫІ:
**212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.**

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net


Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова **20**. Наклад **2000** асобнікаў. Падпісана да друку 15.11.2001 г. а 17.05.